# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“) (8) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.

**Цана:** **Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзён-наамэрыканскія краіны): год — 12,5 н. м.; **ЗША** й **Канада:** год — 6,5 дал.; **Ангельшчына** й **Аўстралія:** год — 30 шыл.; **Францыя:** год – 12,5 н. ф. **Паўгода — палавіна пададзенае цаны. Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 16 (600) — Каталіцкія Каляды 1962 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 16


# *Вясёлых Каляд і шчасьлівага Новага Году!*

# КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## Яго Эксцэленцыі Япіскапа Часлава Сіповіча — Апостальскага Візытатара для Беларусаў-каталікоў

**Дарагія браты у Хрысьце!**

Каляднія сьвяты ськіроўваюць нашы думкі і нашы сэрцы ў Бэтлеем — месца нараджэньня Хрыста, і ў Беларусь — нашу дарагую Бацькаўшчыну.

Сьвятое Эвангельле паводля Лукаша ў простых словах апісвае адну з найвялікшых гістарычных падзеяў: «І сталася ў тыя дні. Выйшаў ад цэзара Аўгуста загад зрабіць сьпісак па ўсёй зямлі. Пайшоў таксама і Язэп з Галілеі, зь места Назарэту, у Юдэю, у места Давідава, называнае Бэтлеем, бо ён быў з дому і роду Давідавага, каб запісацца з Марыяю, заручанай зь ім жонкай, што была цяжарная. Калі-ж яны былі там, надыйшоў час радзіць Ей. І нарадзіла Сына свайго першароднага, і палажыла Яго ў жолаб, бо ня было ім месца ў заезьдзе.»

Каб усьведаміць сабе далейшыя выпадкі ў сувязі з народзінамі Хрыста, як сьпевы Анёлаў, прывітаньні бэтлеемскіх пастухоў, дары магаў з Усходу, падступныя інтрыгі Гэрада, трэба таксама ўсьведаміць тыя праўды аб новароджаным Дзіцяці, якія натхнёна пераказаў нам іншы эвангеліст, сьвяты Ян. Ён ня прыгадвае аб жолабе і аб пастухох, але ягоны геній сягае вышэй і адкрывае нам глыбейшыя праўды ўцелаўленьня Сына Божага. Ён кажа: «Напачатку было Слова і Слова было ў Бога, і Богам было Слова. Яно было ў Бога спакон вякоў. Усё празь яго сталася і безь яго нічога ня было. У ім жыцьцё было, і жыцьцё было сьвятлом для людзей. І Слова Целам сталася, і пасялілася між нас — поўнае ласкі і праўды.»

Калі мы зьбяром у адно ўсё тое, што Сьвятое Пісаньне мае аб Хрысьце, дык мы атрымаем гэтакі праўдзівы Яго малюнак: Хрыстос, прадсказаны прарокамі Мэсіяж-Збаўца, ёсьць другой Асобай Тройцы Сьвятой, які ў часох цэзара Аўгуста, калі ад імя Рымлянаў уладарыў жыдоўскай краінай Гэрад, нарадзіўся з Марыі Дзевы ў юдэйскім горадзе Бэтлееме.

Аб Хрысьце, калі Ён яшчэ быў дзіцяткам, пабожны старац Сімон казаў: «Сьвятло для асьветы паганаў, слава Ізраэля. Вось ляжыць Гэты на ўпадак і на паўсланьне многіх у Ізраэлю, і на знак, якому працівіцца будуць.»

Хрыстос быў ціхі, пакорны, бедны. Ён казаў аб самым Сабе: «Птушкі гнёзды маюць, лісіцы — норы, а Сын чалавечы ня мае дзе прыхіліць галаву.» Ён навучаў ня прымаючы заплаты. Ён лячыў раны душы й цела, Ён гарнуў да Сябе маленькіх дзетак, прыцягваў грэшнікаў і зьмяняў жыцьцёвы шлях вулічніцаў. Ён прайшоў праз гэты сьвет добра робячы ўсім, аднак Яго ўкрыжавалі.

Чаму? — пытаем. Дзе прычына гэтага злачынства?

У Бэтлееме праслаўлялі Анёлы, віталі сяляне-пастухі, прыносілі дары каралі Ўсходу, тады, калі яшчэ быў хілым дзіцяткам. Пасьля, калі зрабіў для сваіх суродзічаў-жыдоў, для цэлага сьвету ўсё магчымае і немагчымае — сьвет Яго ўкрыжаваў.

Чаму? — пытаем. Дзе прычына гэтага злачынства,

І адказваем: Хрыстос сваім жыцьцём і сваім навучаньнем паказваў новы для людзей — шлях, які вядзе чалавека да вечнага жыцьця, да вечнага шчасьця.

Шмат было да часоў Хрыста выдатных дзеячоў, філёзафаў. Не адзін зь іх пакінуў незацёрты да нашых часоў сьлед у гісторыі людзкіх дзеяў і людзкой думкі. Годзе тут прыгадаць такія імёны, як Будда, Канфуцы, Сакрат, Плятон ці Арыстоталь. Аднак ніводзін зь іх ня мог даканаць таго, што рабіў Хрыстос: Аздараўляў безнадзейна хворых, вызвольваў душы й целы з апутаньня злых духаў, уваскрошваў мёртвых. Будучы ціхім і пакорным сэрцам, адначасова прыклікаў да сябе ўсіх: «Прыйдзіце да Мяне ўсе, што працуеце і абцяжаныя. Я вас супакою». Ён так-жа казаў: «Хто ня возьме крыжа свайго штодзённага і ня пойдзе сьледам за Мной — ня ёсьць Мяне годны.»

Ніякі гвалт, ніякі бруд мінаючага часу ня мог заглушыць такіх словаў Хрыстовых: «Шчасьлівыя ўбогія духам, бо вашае ёсьць царства Божае; шчасьлівыя галодныя цяпер, бо вы насыцеціся; шчасьлівыя плачучыя сяньня, бо яны будуць пацешаныя; шчасьлівыя, калі зьненавідзяць вас людзі за Сына Чалавечага; любіце ворагаў вашых; будзьце міласэрдныя, як і Айцец ваш міласэрдны; не асуджайце і ня будзеце асуджаныя.»

Суродзічы Хрыста, хоць і мелі Майсея закон і кнігі прарокаў, заблыталіся ў фармалізьме вонкавым і не адрозьнівалі між чысьцінёй кубка, а чысьцінёй сэрца. Яны лятуцелі аб збаўцы наступніку пасаду ізраэлявага, што зьнішчыць мячом рымскія паганскія легіёны і адновіць блеск трону і славы Салямона і Давіда. І гэтыя лятуценьні зацьмілі ім ўсю веліч Хрыстовых Праўдаў, якія былі лекам на раны ня толькі хворай душы Ізраэля, але і ўсіх людзей, усіх краінаў.



Дарагія браты і сёстры Беларусы!

Магчыма некаторыя і з нас, асабліва тыя, якім доля-нядоля суліла цярністы шлях жыцьцёвы або тыя, якім доўгагадовая бязбожная прапаганда змагла падсекчы карэньне веры Хрыстовай, спатыкаюць сяньняшнія Каляды з апушчанымі вачыма, із зьбянтэжанай думкай і хворай душой. Памятайма! Ніхто, апрача Хрыста ня зможа даць душы сілы да змаганьня за запраўдную свабоду чалавека і цэлых народаў. Там, дзе замоўклі каляднія і вялікодныя званы — там убоства ганебна аслабла сілы цела і палёт духу.

Беларус, аднак, дзе-б ён ня быў, ня можа забыцца калядняй Куцьці свае вёскі. Ён носіць у сэрцы любоў да свае краіны, асабліва да сваіх цяжка цярпячых і працуючых братоў. Сяньня мы павінны злучыцца ўсе, як адна сям'я за адным калядні́м сталом. І нашым злучывам павінен быць той-жа Хрыстос, Які застаецца ў Сваёй праўдзе, Сваёй кресе, у Сваёй Царкве, у Сваіх Сьвятых Тайнах — Той-Самы, цяпер і навекі.

Жыве Хрыстос!
Жыве Беларусь!

**† Ч. Сіповіч**

Тытулярны біскуп Марыямітанскі Візытатар Беларусаў-каталікаў на чужыне.

## *ДА 600-га Н-РУ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»*

І ўсё-ж хутка мінае час. Здавалася-б, яшчэ ня так ужо й даўна «Бацькаўшчына» адзначала свой 100-ы нумар. У той час гэта была не абы-якая падзея, асабліва для тых, якія найлепш ведалі, як нараджаўся п е р ш ы нумар гэтае газэты. А ведалі гэта найлепш тыя — хто столькі энэргіі, вытрываласьці, дыпляматыі і зручнасьці прыклалі для таго, каб выйшаў гэты п е р ш ы н у м а р.

Дый ня толькі ініцыятары гэтага органу беларускай нацыянальна-вызвольнай думкі, але й шматлікія чытачы (хоць і ня ўсе) успрынялі ў той час з радасьцяй і энтузіязмам выхад у сьвет першага нумару беларускай эміграцыйнай газэты ў Нямеччыне.

Тыя часы напэўна прыгадвае яшчэ бальшыня нашых суродзічаў, што былі тады жыхарамі гэтак званых ДП лягераў —ці гэта было ў Рэгэнсбургу, Міхельсдорфе, Ватэнштэце, Остэргофэне, ці Шляйсгайме... І прыгадваюць напэўна тагачасную атмасфэру грамадзка-палітычнага жыцьця беларускае эміграцыі.

У той час ужо выдавалася пэўная колькасьць беларускіх часапісаў ратататарнай тэхнікай, якім, аднак, ня было суджанае доўгае жыцьцё. Усе чакалі на выхад першага нумару друкаванае газэты, хоць некаторыя, пасьля выхаду гэтага першага нумару, прадказвалі ёй такі-ж самы лёс, як і ратататарным часапісам. Мала таго, яшчэ перад гэтым некаторыя варажылі, ці наагул выйдзе гэты першы нумар, які патрабаваў столькі захадаў і розных фармальнасьцяў, каб паказацца ў сьвет.

Але гэта былі першыя цяжкія пасьляваенныя гады. Дзякаваць Богу мы іх пережылі, а на ўсё дрэннае ў іх, асабліва што тычыцца нашага тагачаснага грамадзка-палітычнага жыцьця, забудземся. Лепш трымаць у памяці сьвятлейшыя бакі тагачасных перажываньняў. І вось адным з такіх сьвятлейшых бакоў і было зьяўленьне «Бацькаўшчыны».

Сяньня, аглядаючыся назад і прыгадваючы тыя часы, трэба ўсё-ж аб'ектыўна сьцьвердзіць, што ў той незайздросны час у нас знайшліся запраўды ахвярныя людзі, якія аддавалі ўсё для беларускае справы і знайшліся шматлікія Беларусы, якія іхную ініцыятыву і працу дружна падтрымалі.

Дзякуючы такому настаўленьню нашых суродзічаў, выйшлі ня толькі першыя нумары газэты, але яна пачала выдавацца стала, хоць, праўда, часамі з пэўнымі перабоямі, якія не залежалі ні ад выдаўцоў, ні ад чытачоў (прыкладам, грашовая рэформа ў Нямеччыне, масавы выезд беларускіх эмігрантаў у Амэрыку і г. д.).

Мы не патрабуем тут дакладна апісваць і аналізаваць пройдзены шлях «Бацькаўшчыны». Яго ведае бальшыня нашых чытачоў. Зазначым толькі, што гэты шлях вельмі нагадвае жыцьцёвы шлях чалавека: мы бачым тут і весялейшыя моманты і цямнейшыя, нуднейшыя і цікавейшыя, спакойныя і больш напружаныя. «Бацькаўшчыну» крытыкавалі і хвалілі, ёй зайздросьцілі і ёй спачувалі, на яе нападалі і яе абаранялі, яе лаялі і ёю радваліся, адным словам — усяк бывала. І гэта зусім нармальна. Гэта шлях ня толькі «Бацькаўшчыны», але й кажнае дэмакратычнае газэты.

І вось, ідучы гэтакімі шляхамі — мы дасягнулі 600-га нумару. Праўда, у нармальных умовах, гэта, фактычна, нічога вялікага. Але ў эміграцыйных абставінах, у якіх выдаецца «Бацькаўшчына» — гэта ўжо запраўды веха, якую варта адзначыць. Трэба прыгадаць пры гэтай нагодзе і аб тэй выдавецкай дзейнасьці, якую праводзіла і вядзе «Бацькаўшчына» на працягу свайго існаваньня. Сяньня на полках дамашніх бібліятэчак беларускіх эмігрантаў ды ўва ўсіх важнейшых бібліятэках усяго сьвету можна пабачыць цэлы шэраг твораў беларускіх клясыкаў і эміграцыйных беларускіх пісьменьнікаў, выдадзеных «Бацькаўшчынай», ці пры ўдзеле «Бацькаўшчыны».

Прыняўшы ўсё гэта на ўвагу, «Бацькаўшчына» запраўды можа ганарыцца сваім пройдзеным шляхам і сваімі дасягненьнямі на гэтым шляху.

**Спадзяючыся** і на далейшую падтрымку нашых чытачоў і ўсяго беларускага грамадзтва на чужыне, якое, як мы ўжо згадвалі, у куды больш цяжэйшых умовах не пакінула «Бацькаўшчыны», мы верым, што і ў будучыні будзем мець падтрымку ўсяго нашага грамадзтва, ды што газэта і выдавецтва будзе й далей весьці карысную нацыянальную справу —выконваць сваё заданьне органу беларускай нацыянальна-вызвольнай думкі.

На заканчэньне мы складаем шчырую падзяку нашым чытачом, якія сваімі ахвярамі матар'яльна дапамагаюць выдаваць газэту, а ў першую чаргу, нашым супрацоўнікам і карэспандэнтам ды ахвярным прадстаўніком і кальпартэрам ўва ўсіх краінах сьвету.

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

## *ЛІСТ ДА РЭДАКЦЫІ*

### ГОДНАСЬЦЬ А. УЛАДЫСЛАВА САЛАЎЯ

Ветліва прашу зьмясьціць у «Бацькаўшчыне» наступнае:

Гэтым маю вялікую радасьць паведаміць беларускаму грамадзтву, што вельмі паважаны Айцец Уладыслаў Салавей, ведамы беларускі сьвятар і дзеяч, за сваю пільную і заслужаную душпастырскую, харытатыўную ды культурную дзейнасьць узнагароджаны Апостольскім Рымскім пасадам годнасьцяй пратаерэя (монсіньёра) з правам нашэньня адпаведных сваёй годнасьці адзнакаў. Айцец пратаерэй Салавей зьяўляецца таксама маім прыватным сакратаром на час працы Сусьветнага Ватыканскага Сабору. Не сумлеваюся, што усе, хто меў нагоду знаць ці супрацоўнічаць з а. пратаерэям Салаўём, пажадаюць яму шмат гадоў далейшай плённай працы на Божую славу і славу нашай Бацькаўшчыны — Беларусі.

**† Ч. СІПОВІЧ**

Тытулярны біскуп Марыямітанскі Візытатар Беларусаў-каталікоў на чужыне

# Да 80-гадовага юбілею Якуба Коласа

### АД РЭДАКЦЫІ

**22 кастрычніка сёлета споўнілася 80 год ад дня нараджэньня клясыка беларускай літаратуры, беларускага народнага пісьменьніка — паэта й празаіка — Якуба Коласа.**

**Роля Якуба Коласа ў беларускай літаратуры добра ведамая ўсяму беларускаму грамадзтву. Аб ім напісана шмат працаў, у якіх сумленныя дасьледнікі праўдзіва й аб'ектыўна асьветлілі жыцьцёвы й творчы шлях паэта. Але пішуць аб Коласу ня толькі сумленныя людзі і ня ўсе сумленныя могуць сказаць тое, што яны пра пісьменьніка ведаюць і што яны сказаць хацелі-б.**

**80-годзьдзе ад дня нараджэньня Якуба Коласа было адзначанае ўсюды, дзе жывуць Беларусы. Аднак на Бацькаўшчыне Коласа і ўсіх нас гэты юбілей быў замрочаны ценем прысутных там панявольнікаў, якія намагаліся, як гэта было і зь юбілеем Янкі Купалы, давесьці сваім і чужым, што Колас быццам увесь час толькі й марыў аб прыйсьці іхнага царства.**

**Далучаючыся да адзначэньня Коласаўскага юбілею, «Бацькаўшчына» пачынае з гэтага нумару зьмяшчаць матарыялы, якія дапамогуць усім нам адсьвяжыць у памяці праўдзівы вобраз гэтага вялікага сына нашага народу, — ставячы націск на тую літаратурную спадчыну пісьменьніка, якую ён стварыў, будучы яшчэ духова вольным і запраўды народным песьняром.**

## «Новая Зямля» Я. Коласа — найвызначнейшы твор беларускае літаратуры

У аглядзе Коласавых лірычных вершаў ды ягоных раньніх празаічных апавяданьняў трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на іх глыбокі нацыянальны характар. Нацыянальны элемэнт у Коласавай творчасьці выступае ня гэтулькі ў ягонай нацыянальнай праблематыцы, колькі ў рэалістычных апісаньнях беларускага сялянскага быту, беларускіх сялянскіх тыпаў ды зьяваў прыроды роднага краю.

Спасярод усіх Коласавых твораў найшырэй і найглыбей выступіў нацыянальны характар у ягонай вялікай паэме «Новая Зямля». Да «Новай Зямлі» ў беларускай літаратуры пераважалі гэтак званыя «малыя жанры‘, якія давалі мастацкія малюнкі жыцьця ў міньятурах і эпізодах. «Новая Зямля» у гэтым разрэзе — твор манумэнтальны. Да «Новай Зямлі», у беларускай літаратуры, як і ў творчасьці самога Коласа, пераважала лірычнае ўцелаўленьне вакольнага жанру вершам. Ужо адно гэтае выдзяляе «Новую Зямлю» з усіх ранейшых твораў беларускае літаратуры.

У паэме ярка паказаная спэцыяльна несправядлівасьць стану беларускага безьзямельнага сялянства, крыўджанага й эксплятаванага вялікімі землясобсьнікамі. Выхад із сацыяльнай залежнасьці сялянства Колас паказвае ў прыдбаньні собскай зямлі, да чаго і імкнецца на працягу ўсяго дзеяньня паэмы галоўны ейны герой Міхал. У гэтым запаветным імкненьні Міхала, савецкая літаратурная крытыка трыццатых гадоў бачыла супярэчны камуністычнай дактрыне апатэоз прыватнага собсьніцтва, як адзінага шляху разьвязаньня сацыяльнай праблемы беларускага сялянства. За гэта Якуб Колас тады быў войстра атакаваны гэтай крытыкай. Але апошнімі гадамі, тая-ж крытыка ўжо яго апраўдвае тым, што ў вабставінах часу, у якім разыграваецца дзея паэмы, імкненьне сялянства да зямлі й волі, паводля «вучэньня Леніна», было прагрэсыўным. Гэта тым больш, што быццам Колас паказвае гэтае імкненьне да прыватнага собсьніцтва не як самамэту, але як спосаб «каб з панскіх выпутацца пут».

Гэтак Фіглоўская ў сваёй кнізе «Творчасьць Якуба Коласа, выдадзенай у 1959 годзе ў Менску, абапіраючыся на Коласавую цытату — «купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут‘, ды на тое што герой паэмы Міхал у мамэнт прыдбаньня ім собскай зямлі памірае, робіць аж такі выснаў: «Колас у «Новай Зямлі» асудзіў дробнаўласьніцкія імкненьні сялянскіх мас, заклікаючы іх тым самым да новых формаў жыцьця. Тут, бясспрэчна, праявілася тэндэнцыя пісьменьніка, які ідзе на шляху да сацыялістычнага рэалізму», — аж гэткае галаслоўнае адкрыцьцё робіць Фіглоўская.

Такая інтэрпрэтацыя «Новае Зямлі» тэндэнцыйная і нічым не падмацаваная! Ужо ў некаторых ранейшых празаічных апавяданьнях собская зямля ўспрыймалася Коласавымі героямі ня толькі, як іхны адзіны варштат працы й адзіная апора існаваньня. Любасьць і прывязанасьць да собскае зямлі выступала ў гэтых апавяданях, як глыбака арганічная рыса нацыянальнага характару беларускага селяніна. У гэткім-жа аспэкце, толькі яшчэ больш выразна, разьвіта й завершана, паказаная собская зямля ў «Новай Зямлі». Вось як разважае паэта ў XXVI разьдзеле паэмы:

А дзе-ж той выхад? Дзе збаўленьне
Зь нядолі цяжкай, запаланеньня?
Адзін ён ёсьць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая ральля:
То наймацнейшая аснова
І жыцьця першая умова.
Зямля ня зьменіць і ня здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх ня кіне,
Зямля — аснова ўсёй айчыне.

Гэты разьдзел быў напісаны Коласам ужо ў 1922 годзе, значыцца пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі і замацаваньня савецкай улады ў Беларусі. А гэта мае таксама сваю вымову.

Мага гэтага! У беларускай літаратурнай крытыцы першы паэтаў дзядзька Язэп Лёсік не бяз рацыі падглядзеў, а за ім Уладыслаў Дзяржынскі разгарнуў і глыбокі сымбалічны зьмест «Новай Зямлі». Дзяржынскі неўзабаве пасьля выхаду «Новай Зямлі» ў 1923 годзе пісаў, што ў рэалістычных вобразах паэмы дадзены сымбаль беларускага нацыянальнага адраджэньня, сымбаль высокамастацкі ў сваёй рэалістычнай прастаце. Уласная зямля, да якой імкнуўся Міхал, набывае значаньня сымбалю ўласнае айчыны. Асабліва гэта адчуваецца ў вапошнім акордзе паэмы, калі пры сьмерці Міхал дае свайму брату Антону наступны наказ: «Бог ня судзіў мне бачыць волі і кідаць зерні ў свае ролі... Зямля, зямля... туды, туды, брат, убудуй яе... ты дай ёй выгляд... На новы лад, каб жыць нанова...»

Падобна як Янка Купала ў «Раськіданым Гнязьдзе» даў сымбаль Беларусі — руйнаванае й разбуранае і матарыяльна й духова, і нацыянальна, і сацыяльна — так Якуб Колас у «Новай Зямлі» даў у цалком рэалістычных рысах шуканьня гэтае айчыны, сымбаль імкненьня народу да адраджэньня й адбудаваньня гэтае свае «раськіданае» айчыны. Гэтая сымболіка паэты асабліва выпукляецца на фоне тых лірычных адыходаў, якімі паэта звычайна пачынае разьдзелы яе. У гэтай лірыцы так шмат каханьня да бацькаўшчыны, да родных палеткаў, такі энтузіязм нацыянальнага пачуцьця, што паэма ўспрыймаецца, як твор наскрозь прасякнуты ідэяй беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Для ідэйнага зьместу «Новай Зямлі» вельмі важны і яшчэ адзін мамэнт. Большую частку разьдзелаў гэтага твору, бо аж 19 на ўсіх трыццаць разьдзелаў, Колас напісаў ужо пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўстанаўленьня савецкай улады ў Беларусі — у 1919, 1920 21, 22 і ў пачатку 23 гадоў. Хаця дзеяньне паэмы адбываецца ў канцы XIX стагодзьдзя, але ў сваіх лірычных прэлюдыях-адыходах паэта вельмі часта зварачаецца да сучаснасьці. Ён, як усе бадай тагачасныя паэты і наагул беларускія адраджэнцы, знаходзіўся ў стане гэтак званай «нутраной эміграцыі», якая ў накінутым савецкім ладзе бачыла чужое і варожае. Гэткія думкі і пачуцьці найвыразьней выказвае паэта ў XVIII разьдзеле «Новае Зямлі», напісаным узімку 1919–20 году яшчэ перад зваротам Коласа із савецкай Расеі ў Беларусь. Вось у якіх хварбах малюе паэта савецкія абставіны й долю ў іх Беларусі:

Далёка я ад межаў родных,
Сярод людзей, душой халодных
І сэрцам чэрствых. Я гадаю,
Я родны край успамінаю,
Я ім жыву, я ў ім душою
І сэрцам кажнаю парою.
Як той нявольнік прагне волі,
Так прагну я ступіць на ролі
Сваіх палеткаў, ніў благенькіх,
Дарог і сьцежанак крывенькіх,
Што гожа ўюцца спомеж жыта
Або срэдзь леку самавіта.
І ўстануць зьявы, як жывыя,
Малюнпі сэрцу дарагія,
І моцна душу парываюць.
«Ідзі да нас! Ідзі» гукаюць.
Благаслаўлёны час той будзе,
Калі я ў родным сваім людзе
Куточак бацькаў прывітаю
І радасьць жыцьця там пазнаю.
О, родны край! о, край пакуты,
Нягодай цяжкаю прыгнуты!
Калі-ж ты збудзеш тое гора,
Што і цяпер там, як і ўчора.
Як і даўней, цябе зьнішчае
І горкі смутак авявае?

Гэтак пісаў Якуб Колас яшчэ на пераломе 1919-20 гадоў!

Такім парадкам творчасьць Якуба Коласа дадзенае пары наскрозь нацыянальная, а ў ёй найбольш нацыянальным творам — «Новая Зямля». Агульную-ж ацэну гэтага твору й ягонае месца ў беларускай адраджэнскай літаратуры можа найдакладней вызначыў беларускі літаратурны крытык у вольным сьвеце Склют у сваім уводным артыкуле да выданьня «Новае Зямлі» ў 1952 годзе на эміграцыі. Ён піша: «Новая Зямля» найпаўней і найхарактэрней рэпрэзэнтуе нашую літаратуру часоў нашаніўскага адраджэнства (і нат ягонага беспасярэдняга падрыхтаваньня) ды творчасьць Коласа тых-жа часоў. Дзеля таго-ж, што заканчэньне й зьяўленьне ў сьвет цэласьці твору прыпала на самы канец гэных гадоў, тая ягоная рэпрэзэнтацыйнасьць, падмацаваная манумэнтальнасьцяй, абярнулася ў завяршальнасьць у дачыненьні да цэлае эпохі беларускае літаратуры а нат нацыянальнае грамадзкасьці. Але-ж «Новая Зямля» больш, як які-небудзь іншы твор, мае ўсе правы на годнасьць завяршальнага помніка беларускага літаратурнага й наагул нацыянальнага адраджэнства».

**Ст. Ст.**

## XIУ Канфэрэнцыя Інстытуту вывучэньня СССР

(Працяг зь 1-ай бач.)

дужках можна дакінуць, што ў савецкай беларускай «завяртанскай» літаратуры якраз пачынаецца перакваліфікацыя «буржуазнага нацыяналізму» аж у «адшчапенскі касмапалітызм», як, прыкладам, у нядаўна выпушчанай і пашыранай «Голасам Радзімы» брашуры «Наш Купала»).

Д-р Ахмінаў уважае, што гэты новы патрыятызм, «які, як правіла, утаесамляецца зь лаюбсьцяй да народу (а не да сыстэмы), становіць таксама, у істоце рэчы, адмаўленьне камунізму ў цэлым шэрагу пунктаў: ён абвяшчае як крытэры пастановаў дабро народу, а не камуністычную дактрыну, што і тэарэтычна мусіць прывесьці й практычна прыводзіць да канфлікту носьбітаў патрыятызму з палітыкай КПСС. Прыкладам, авантурыстычная вонкавая палітыка, як правіла, супярэчыць прынцыпам здаровага патрыятызму. А нутраная палітыка камунізму знаходзіцца стала ў канфлікце з вымаганьнямі патрыятызму, з вымаганьнямі любасьці да народу. Прыкладам, калі ўважаць дабро народу за крытэры ўсіх пастановаў, няма ніякае канечнасьці забараняць прыватны гандаль або прыватнае домабудаўніцтва. А калі ўважаць камунізм за такі крытэры, дык гэта трэба рабіць».

Далей, паягонаму, новы нацыянальны патрыятызм «небясьпечны з камуністычнага гледзішча найперш таму, што ён месьціць у сабе ідэю дзяржаўнасьці, якая можа ды, на думку носьбітаў гэтае ідэі, мусіць быць вышэй і вартасьнейшай за камуністычную ідэялёгію», падпарадкаваньне-ж камунізму пад гэты патрыятызм «значыць зьнецаненьне камунізму й ствараe перадумовы для адмаўленьня ад яго... Усякі патрыятызм (у супрацьлежнасьць нацыяналізму й камунізму) выходзіць з прызнаньня народу (г. зн. людзёў, што яго складаюць) за вышэйшую вартасьць. Іншымі словамі, мы знаходзім вытокі патрыятызму ў індывідуалізьме, у прызнаньні паасобнага чалавека за найвышэйшую вартасьць, а гэта раўнамоцнае адмаўленьню камунізму. І, нарэшце, патрыятызм перадумаўляе гэткія дачыненьні паміж народаў, якія найперш забясьпечвалі-б дабро людзей, што складаюць дадзены народ. Таму «касмапалітычнае» зразуменьне патрыятызму... зусім не становіць супярэчнасьці, а, наадварот, выражэньне запраўднага патрыятызму».

З карэфэратамі да рэфэрату д-ра Ахмінава выступілі С. Вараніцын (на тэму «Сучасная савецкая моладзь і праблема грамадзкае думкі»), д-р М. Штыгер («Настаўленьне савецкае моладзі да некамуністычнага сьвету») і Й. Зыч («Савецкакіраваныя міжнародныя арганізацыі моладзі»). Новы малады, а вельмі паважны, з выразнымі пэрспэктывамі навуковы супрацоўнік Інстытуту С. Вараніцын на крытычным разглядзе адпаведнага фактычнага матар'ялу прыйшоў да высьнаву, што «ведама, нейкая частка савецкае моладзі, ня маючы альтэрнатываў, знаходзіцца яшчэ ў тэй ці іншай ступені пад уплывам партыі й думае партыйнымі катэгорыямі, але між прадстаўнікамі гэтае часткі моладзі й моладзяй, што самастойна стварае свой пагляд на навакольле, пачынае паступова тварыцца духовы разрыў», адпаведна да разрыву між г. зв. «навукова-партыйнай» і стыхійна-паўсталай грамадзкай думкаю; думка-ж гэтая ўжо пачынае пакрысе фармавацца, і «трэба ў поўнай меры ацаніць ролю й

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

Якуб Колас

## Ноч, калі папарацьць цьвіце

*Прысьвячаецца Янку Купалу*

Ну, з кажнай мясьцінкі зямлі можна пачаць дарогу. А калі гэтая мясьцінка была-б недаступная для людзкой нагі, па ёй пройдзе хоць думка людзкая і ўсё-ж такі пакіне свой сьлядок і нейкую дарожку праложыць.

Чамусь гэтая старонка лічылася заняпалаю старонкаю. I слава ўжо такая зллажылася аб ёй, аб прыродзе яе й аб людзях яе. А людзі тут усякія былі. Адны жылі тут спрадвеку, тут радзіліся й тут уміралі. Так і называліся яны — «тутэйшыя людзі». А другія часта няпрошаныя заходзілі. Але яны казалі, што прышлі сюды затым, каб прынесьці дабро тутэйшым людзям. Але, як ведама, казаць можна адно, а рабіць зусім другое.

Усё гора тутэйшых людзей было ў тым, што за іх вельмі многа клапаціліся іх суседзі. Адны суседзі ім казалі: «Вы — гэта ня вы, а тое самае, што й мы. Дык наце-ж вам нашы парадкі, нашы школы, нашу мову, бо ваша мова такая-ж, як і наша, толькі вы яе папсавалі». Тое самае казалі суседзі з другога боку, але толькі на свой лад.

Тутэйшыя людзі прымалі гэтае дабро зь вялікай неахвотаю, бо ім хацелася быць самым сабой. Тады суседзі пачалі забіраць іх дзяцей. Бралі і выхоўвалі ў сваіх школах. Выхоўвалі так, каб яны пакідалі сваіх бацькоў і ад бацькаўскіх звычаяў адракаліся. I гэта ім удавалася — пакідалі дзеці бацькоў сваіх ды йшлі або на захад, або на ўсход, гледзячы па тым, дзе каму было лепей. Яны рабіліся слугамі сваіх суседзяў і ўжо стыдаліся прызнаваць сябе дзецьмі тутэйшых людзей.

На шчасьце тутэйшых людзей ня ўсе іх дзеці пападалі ў гэтыя школы і ня ўсе яны мелі такую падатлівую натуру. Сярод іх былі й такія, што навет і школы ня мелі сілы выкурыць зь іх дух тутэйшых людзей, бо гэта былі шчырыя дзеці свайго народу.

Такім шчырым сынам свайго народу быў і гэты юнак. Аб ім ужо й казка зложана, а я хачу толькі пераказаць яе сваімі словамі.

Як ведама, героі казак вельмі часта зьяўляюцца на сьвет у выніку тых ці іншых надзвычайных праяў або маюць на сабе які-небудзь надзвычайны знак. I ўжо адна гэта надзвычайнасьць робіць іх адразу героямі. Нічога такога ня было з нашым героем. I бацькі яго былі звычайныя тутэйшыя людзі. Хіба, можа, надзвычайнага тут было толькі тое, што хлопчык радзіўся нейк летам, у той час ці блізка таго, калі зацьвітае папарацьць. Ён навет і імя даў сабе сам: імя тае ночы, калі цьвіце гэтая папарацьць.

Гэтая маленькая рысачка ў жыцьці нашага героя, здавалася, сама па сабе ня мела вялікага значэньня. Але гэта ня так: часамі самае маленькае знаходзіцца ў блізкай і цеснай сувязі з самым вялікім. Трэба толькі ўмець знайсьці месца іх стыку. Так было й тут. У тую самую ноч, калі зацьвітае папарацьць, — я толькі пераказваю тое,— што ўжо зложана ў казках тутэйшых людзей, — пазьбіраліся на сходку русалкі, лясун, ваўкалакі, вадзянік, дамавік, зданьні і чараўнікі розных прафэсіяў. Сход іх адбываўся на беразе аднаго вельмі прыгожага возера, атуленага задуменьнем кучаравых сосен. На гэтым возеры разаслаў месяц свой малюсенькі белы кужаль, а зоркі пасходзілі зь неба й купаліся ў бліскучых пералівах вады, бы тыя дыямэнтавыя кветачкі. Ім хацелася паслухаць, аб чым будзе гаварыць гэты сход.

Аб юнаку была гутарка тут.

Усім спадабалася якраз тое, што гэты юнак даў сабе імя тэй ночы, калі папарацьць цьвіце й калі фантастычныя істоты свае сходы праводзяць. I цяпер яны думалі, які падарунак зрабіць юнаку.

Старшынёю сходу быў Лясун.

— Дык хто чым хоча парадаваць Юнака? — спытаў старшыня.

Русалкі казалі:

— Мы навучым яго сьпяваць прыгожыя песьні, бо песьні ўва ўсіх выпадках жыцьця патрэбныя чалавеку. Зь песьнямі лягчэй на сьвеце жыць. «Адвечная песьня».

— I аб нас ён песьню зложыць, — дадала адна русалка.

— Я падарую яму «Жалейку», —азваўся Дамавік: — струмант гэты хоць і просты, але я навучу Юнака граць так, каб тутэйшыя людзі зачароўваліся ёю й прыходзілі да сьвядомасьці, чаму так сталася, што яны не гаспадары ў сваёй хаце.

— А я дам яму «Гусьлі», — сказаў Вадзянік: — няхай апявае былую славу свайго народу й закідае ў сэрца яго імкненьне «заняць пачэснае месца між славянамі».

Слухаў месячык гэтую размову. Яму таксама захацелася хоць чым дапамагчы Юнаку, і ён сказаў:

— А я пайду зь ім яго «Шляхам Жыцьця» і буду асьвятляць яго дарогу, каб яму лягчэй было ў жыцьці прабівацца. Ён убачыць «Раськіданае гняздо» свае айчыны. Аб гэтым «Раськіданым гнязьдзе» раскажа ён людзям. Калі ён прыстане ў дарозе, я палажу яго спаць на высокім кургане й навею яму чароўны «Сон на кургане» й буду асьвятляць яго дарогу, каб яму лягчэй было ў жыцьці прабівацца. У дарозе-ж ён спаткаецца зь мілаю «Паўлінкаю» і расказам аб ёй людзей павесяліць.

Выступіў і пануры Ваўкалак:

— У мяне крэпкія, гонкія ногі. Я пішу па зямлі сотні, тысячы вёрст. Я занясу на край сьвету яго песьні й думкі. Я дам яму словы гневу й абурэньня, каб молатам білі яны па струнах сэрца таго, хто прадае сваю айчыну.

— Я дам яму голас вечавога звону, — сказаў адзін чараўнік: — грымотамі будзе ён гучаць па ўсяму краю й за яго межамі.

— А мы саўём вянкі яго песьням з ранішных рос і сямісьцьветных вясёлак, — сказалі зоры.

— А я што дам яму? — узяў слова сам старшыня: — я скажу маім пушчам-лясом паведаць яму адвечныя тайнасьці іх. Яго песьні я авею шумам бароў. Іх украсаю будзе мудрасьць векавечных дубоў. Я дам яму гарт і цьвёрдасьць граbу, каб да канца ён быў верным свайму народу. I ён пакіне яму вялікую «Спадчыну». Давайце-ж панясём яму свае падарункі.

Усе падняліся да Юнака, пайшлі й пазносілі яму шчодрыя дары.

А тымчасам сьвітаць пачынала.

Пакінулі зоры сваё купаньне. Месячык за беражок зямлі закаціўся.

Узыйшло сонейка.

Мільёны яго радасных сьмехаў рассыпаліся па зямлі й задрыжалі ў росах. Зірнула сонейка на бераг возера, дзе той сход адбываўся, і так весела-весела ўсьміхнулася — даведалася сонейка, што на сходцы рабілася.

— Хвалю іх за тое, што яны так багата Юнака адарылі, — сказала сонейка: — я скажу сваім хмаркам, каб не засланялі яны неба ў Купальскую ноч: няхай сходы пры ясным небе адбываюцца.

